


# Веcткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamlenni**

Сусьветнае сеціва: *e-krama.com, pahonia.com*
Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

№ 11 (585)
Лістапад 2014 г.


# Кастрычніцкі сход Згуртаваньня "Пагоня" і прэзэнтацыя альманаху "Беларус" за 2014 год

У суботу 25 кастрычніка адбылася прэзэнтацыя альманаху "Беларус" за 2014 год, якая была праведзеная на чарговым кастрычніцкім, сходзе Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня". Прэзэнтацыя была галоўным і фактычна адзіным пунктам парадку дня сходу. На пачатку слова ўзяў старшыня Згуртаваньня Віталь Зайка. Ён прывітаў прысутных і зрабіў некалькі абʼяваў: пра наступны сход 8-га лістапада і пра сьвяткаваньне Дня Героя ў у памяць пра ўгодкі Слуцкага Збройнага Чыну 7-га сьнежня.

Затым сп. В. Зайка перадаў слова сп. Сяржуку Сокалаву-Воюшу для вядзеньня прэзэнтацыі альманаху "Беларус". Слынны паэт і бард, а таксама адзін са сталых аўтараў альманаху павіншаваў прысутных з выхадам ужо восьмага выпуску штогадовіка, які абʼядноўвае пад адною вокладкаю самых розных аўтараў, усяго 21, зь дзевяці краінаў па-за Беларусьсю, якія пішуць па-беларуску. Затым вядучы даў слова заснавальніку, рэдактару і выдаўцу альманаху Марату Клакоцкаму, які распавёў пра гісторыю выданьня, пра ягоныя прынцыпы, патрабаваньні, праблемы. Сп. Клакоцкі адзначыў, што важную ролю ў праекце адыграў сп. Вітаўт Кіпель, старшыня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Менавіта ён у свой час падтрымаў ідэю выданьня як працяг слаўных традыцыяў папярэднікаў на эміграцыі – літаратурных выданьняў "Конадні", "Шыпшына", "Сакавік".

Альманах ствараўся для таго, каб людзі зь літаратурнымі памкненьнямі мелі магчымасьць рэалізаваць свае творчыя мажлівасьці на чужыне, дзе фактычна не існавала да пары ніякай пляцоўкі для гэтага. Сп. Клакоцкі адзначыў, што ўзровень твораў, дасланых для публікацыі ў альманаху "Беларус", вельмі розны, але ён стараецца друкаваць амаль усіх аўтараў – а тое, хто больш ці менш таленавіты, хай вырашаюць літаратурныя крытыкі. Дарэчы, альманах штогод прыцягвае усё больш ўвагі літаратурных крытыкаў у Беларусі. Прамоўца таксама распавёў пра некаторыя пытаньні, зьвязаныя з выданьнем і распаўсюджаньем альманаху.

Затым вядучы прадстаўляў па чарзе прысутных аўтараў альманаху, падкрэсьліўшы, што парадак выступаў – па альфабэце, а не па нейкіх іншых крытэрах ці заслугах, так, як аўтары прадстаўленыя на старонках выданьня.

Першым выступіў сп. Віталь Зайка, прачытаўшы пераклады верша амэрыканскага паэта-мадэрніста Э. Э. Камінса "Падзякаданьне 1956" і верша "Колеры нацыі" польскай лірычнай паэткі Марыі Паўлікоўскай-Яснаржэўскай, а затым і ўласны свой верш "Народ", надрукаваны ў альманаху.

Затым сп. Сокалаў-Воюш прадэклямаваў урыўкі зь вершаў наступнай аўтаркі, паэткі Марыны Кражовай – па

*Заканчэньне на бачыне 2*



# Сход і прэзэнтацыя

***Заканчэньне з бачыны 1***

гармоніі й мілагучнасьці яны лёгка маглі б быць прынятыя за ўзоры зь беларускай клясыкі. Марына прыгожа прачытала




***Марына Кражова***

свой верш "Жадаю быць такой жа каляровай..." а потым, на просьбу прысутных, коратка распавяла пра сябе.

Затым слова атрымаў Уладыку Юры (Рыжы), архіяпіскап Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай (Народнай) Царквы, які таксама зьяўляецца аўтарам альманаху "Беларус". Уладыка Юры распавёў пра гісторыю напісаньня твору "Залаты пярсьцёнак", а затым спыніўся на сваёй душпастырскай дзейнасьці, коратка распавёў пра візыт да парафіянаў БАП(Н)Ц у Аргентыну.



***Уладыка Юры***

Пасьля пра сябе і сваю творчасьць распавёў і вядучы Сяржук Сокалаў-Воюш, які ў гэтым нумары альманаху зьмясьціў пераклады з расейскіх пісьменьнікаў Тэфі, Сашы Чорнага й Зошчанкі. Ён зьвярнуў увагу на тое, што ў сёлетнім альманаху, як і ў многіх папярэдніх, друкаваліся ажно чатыры прадстаўнікі Полаччыны – Алег Мінкін, Іна Снарская, Якуб Лапатка і ён сам.

Потым быў зроблены перапынак на каву, і пасьля яго перад прысутнымі выступіла сп-ня Валянціна Якімовіч, сакратар Згуртаваньня "Пагоня" і аўтарка альманаху. Яна распавяла пра напісаньне свайго цыклю эсэяў "Лілея, або Маё юнацтва" і прачытала прыгожы лірычны ўрывак зь яго. Затым яна распавяла пра Анатоля Сыса, выбітнага паэта, чый дзень народзінаў выпае на кастрычнік, і прачытала некалькі ягоных вершаў, у тым ліку славуты "Маналёг Апанаса Філіповіча" "У гэтай краіне ня маю я долі...". Сп-ня Якімовіч згадала, што на бягучы месяц выпадае таксама дзень народзінаў вядучага прэзэнтацыі сп. Сокалава-Воюша, і пад воплескі прысутных падаравала яму сваю карціну "Валошкі".

Перад прысутнымі выступіла таксама шматгадовая карэктарка альманаху сп-ня Алена Высоцкая. Яна падзялілася цікавымі ўражаньнямі і распавяла пра сваю працу, творчасьць аўтараў і пра ўвесь праект.




***В. Якімовіч віншуе С. Сокалава-Воюша***

Рэдактар альманаху сп. М. Клакоцкі запрасіў усіх, хто адчувае схільнасьць да літаратурнай творчасьці, дасылаць свае творы ў наступны выпуск. Уладыка Юры запачаткаваў выдавецкі фонд наступнага нумару штогадовіка, зрабіўшы немалое грашовае ахвяраваньне.

Прысутныя, якіх, дарэчы, на сёлетняй прэзэнтацыі было значна болей, чым летась, з цікавасьцю й воплескамі сустракалі выступы аўтараў і стваральнікаў альманаху.

Пасьля афіцыйнай часткі было прыняцьцё з пачастункамі, на якім прысутныя маглі бліжэй пазнаёміцца са стваральнікамі й аўтарамі альманаху, узяць у іх аўтографы, задаць пытаньні і атрымаць на іх адказы.

***Віталь ЗАЙКА***




***А. Высоцкая, С. Сокалаў-Воюш, М. Клакоцкі***

# Прэмія імя Аляксандра й Марыі Стагановічаў
## за кнігу ў галіне непрыдуманай літаратуры (non-fiction)

У сучаснай Беларусі існуе патрэба падтрымкі і разьвіцьця непрыдуманай літаратуры, яе аўтараў і выдавецкага працэсу. Для спрыяньня вырашэньню гэтых задач заснуўваецца Прэмія імя Аляксандра й Марыі Стагановічаў.

У 2011 г. у выдавецтве "Лімарыус" была запачаткаваная кніжная сэрыя "Беларуская мэмуарная бібліятэка", галоўная ідэя якой – публікацыя ўспамінаў беларусаў і пра Беларусь, што зьяўляюцца адным з жанраў непрыдуманай літаратуры. Першай кнігай, якая пабачыла сьвет у гэтай сэрыі, сталі "Ўспаміны пасла" эмігранта Аляксандра Стагановіча (1890—1988). У хуткім часе была апублікаваная й кніга ягонай жонкі Марыі Стагановіч (1898—1995) "Мае ўспаміны". У 2015 г. спаўняецца 125 гадоў ад нараджэньня Аляксандра Стагановіча і 20 гадоў ад сьмерці Марыі. Іхняя дачка, вядомая мастачка, што жыве ў Нью-Ёрку, Тамара Стагановіч-Кольба, жадаючы ўшанаваць памяць пра бацькоў і падтрымаць непрыдуманую літаратуру, вырашыла заснаваць прэмію іхняга імя за кнігу ў гэтай галіне.

Прэмія мае быць уручаная ў 2015 г. за кнігі, надрукаваныя ў Беларусі на беларускай мове ў пэрыяд 2011—2014 гг.

Партнэрамі ў арганізацыі конкурсу і ўручэньні прэміі выступаюць: Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, ҐА "Саюз беларускіх пісьменьнікаў", МҐА "Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына", выдавецтва "Лімарыус".

На прэмію могуць быць вылучаныя кнігі, напісаныя ў галіне непрыдуманай літаратуры наступных жанраў:

- мэмуары, успаміны, дзёньнікі, эпісталярная спадчына (ня толькі ўласныя, але й публікацыі чужых);
- біяграфіі;
- травэлёгі (падарожныя нататкі);
- дакумэнтальная проза.

Трох пераможцаў конкурсу вызначыць кампэтэнтнае журы ў складзе:

- старшыня сэкцыі непрыдуманай літаратуры ў Саюзе беларускіх пісьменьнікаў, сябра Ўправы ЗБС "Бацькаўшчына", галоўны рэдактар альманаху "Запісы БІНіМ", кандыдат гістарычных навук Натальля Гардзіенка;
- сябра Ўправы ЗБС "Бацькаўшчына", загадчык аддзелу старадрукаў і рэдкіх выданьняў Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь Валер Герасімаў;
- сябра Саюзу беларускіх пісьменьнікаў, кандыдат філялягічных навук Віктар Жыбуль;
- дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіву-музэю літаратуры й мастацтва Ганна Запартыка
- літаратуразнаўца, сябра Беларускага ПЭН-цэнтру, старшы навуковы супрацоўнік Цэнтру дасьледаваньняў беларускай культуры, мовы й літаратуры НАНБ, кандыдат філялягічных навук Ганна Кісьліцына;
- літаратуразнаўца, сябра Беларускага ПЭН-цэнтру, супрацоўнік рэдакцыі часапісу "Маладосьць" Ціхан Чарнякевіч;
- дырэктар выдавецтва "Лімарыус" Марына Шыбко.

Агульны памер прэміі будзе падзелены паміж трыма пераможцамі, кожны зь якіх атрымае таксама дыплём і памятны мэдаль.

Правам намінаваньня на прэмію імя Аляксандра й Марыі Стагановічаў валодаюць як аўтары ці выдаўцы, так і члены журы конкурсу.

Пры вылучэньні кнігі на прэмію трэба да **19 студзеня 2015 г.** перадаць у аргкамітэт папяровы і/ці электронны варыянт тэксту. Папяровыя выданьні трэба прадстаўляць у Саюз беларускіх пісьменьнікаў па адрасе:

***вул. Кузьмы Чорнага, 31–906***
***220012, Мінск***

Электронныя вэрсіі выданьняў можна дасылаць на адрас: ***sbp@lit-bel.org***. Пры перадачы ці дасылцы кніг на прэмію трэба рабіць адмысловую пазнаку ***"Прэмія А. і М. Стагановічаў"***.

Тэлефон для даведак: **8 (017) 200-80-91**.

Імёны пераможцаў будуць абвешчаны ў красавіку 2015 г.

***Аргкамітэт***

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## Талеры за далеры, даляры за таляры

Не разумею, чаму беларускай нацыянальнай валютай лічыцца беларускі рубель. Бо ж сапраўдная нацыянальная валюта тая, да якой людзі ставяцца з павагай, трымаюць у ёй свае ашчаджаньні, аддаюць ёй перавагу над іншымі і маюць да яе патрыятычна-сантымэнтальнае стаўленьне. А па ўсіх гэтых парамэтрах беларуская нацыянальная валюта – гэта даляр.

На пачатку 90-х мой бацька купляў і прадаваў амэрыканскія даляры і нямецкія маркі, за што мне тады ў школе прыпала ганаровае званьне „сына спэкулянта”. Хоць стаўленьне савецкіх людзей да грошай фармальна было ўсё яшчэ пагардлівае, але менавіта ў той час умацоўвалася народная павага да зялёнай “капусты”. Сёньня нават пэнсыянэры трымаюць у шкарпэтках даляры, людзі б’юцца за іх у чарзе да абменьнікаў у час найгоршых крызісаў, баксы сустракаюць з усьмешкай на запраўках Беларуснафты, якія дарэчы таксама зялёныя. Калі б нашым людзям даць волю і не абмяжоўваць адміністратыўнымі перашкодамі, то беларусы купляілі б за даляры хлеб, масла і малако. Нягледзячы на вялізарную перавагу эўра над далярам у блізкіх нам краінах Эўропы, беларусы ня здрадзілі і захавалі вернасьць менавіта апошняму. А можа яны неяк даведаліся, што немцы, адзіныя карыстальнікі эўра, сваёй нацыянальнай валюты ня зьнішчылі, а акуратна адклалі марку у сэйф, на чорны дзень?




А я дык энтузыязму сваіх супляменьнікаў да даляра не падзяляю. Па-першае, прэзыдэнты на банкнотах гэта, памойму, залішне. Каралі і розныя гістарычныя будыніны яшчэ так сабе, а вось прэзыдэнты, ну ні ў якія вароты. Тут можна было б прывесьці шмат якія довады, але чыста з эстэтычнага меркаваньня – зайчыкі, вавёрачкі і лісічкі нашмат мілей. Без іроніі. Па-другое, даляры з шэра-зеленаватых пераўтвараюцца ва ўсё больш жоўта-ружова-каляровыя, што ня толькі пярэчыць эстэтыцы арыгіналу, але перашкаджае ў гандлёвых адносінах у Беларусі. Нядаўна вясковая жанчына, прадавачка валёнак, адмовілася прымаць у мяне новую стодаляравую купюру з яскравымі забесьпячэньнямі. Last but not least, і даляр ужо не даляр. Зь няспынным ростам замежнага доўгу, велічыню якога зафіксаваць проста немагчыма (лепш зазірнуць сюды: www.usdebtclock.org), а таксама з чарговымі дадрукоўваньнямі валюты, даляр усё драбнее і драбнее.

Прыходзіцца хвалявацца, каб наш стары добры беларускі даляр у выніку зусім не захірэў.

**Віталь ВОРАНАЎ**

### Уплаты ў Згуртаваньне Ñëàâê³ é àõâÿðàâàíüí³:

- В. Блоцкі ....................60
- В. Вікторчык ................60
- С. Волкаў ....................60
- Д. Гарбач ....................60
- Т. Мароз ......................60
- В. Недагрэенка ..............60
- М. Самусь ....................60
- А. Цяценькін ................60

**Усім шчыры дзякуй!**

*Паважаны **А. Петрусевіч,** калі ласка, паведаміце рэдакцыі ваш дакладны паштовы адрас.*

**Уплаты ў аддзел шліце на адрас:**
*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*
**Чэкі выпісвайце на імя**
*Viktar Yedzinovich.*

# Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**

адбудзецца ў суботу **8 лістапада 2014 году** на Мангэтане па адрасу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да прыпынка **Union Square**. Будынак знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад **Union Square** па **15-й вуліцы** на скрыжаваньні з **Irving Place**.*

***Заля на другім паверсе.***
Пачатак: **а 6:00-й** вечара.

-------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня сходаў ды іншых імпрэзаў, ладжаных арганізацыяй, можна даведацца, наведаўшы ў інтэрнэце ўэбстаронку **pahonia.com***

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні* :

- В. Бітус ........................30
- В. Вікторчык ..................30
- С. Волкаў ......................30
- Д. Гарбач ......................30
- А. Кавальчук ..................30
- Т. Мароз ........................30
- В. Недагрэенка ..............30
- М. Самусь ......................30
- А. Цяценькін ..................30

**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь могуць усе зацікаўленыя даслаўшы аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі з адзнакаю **“Весткі”** выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня “Пагоня” **Viktar Yedzinovich**.*